Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

# Сялянская Праўда

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пятыту ў 1 шп.

№ 29. Вільня, Пятніца, 5-га сьнежня 1924 г. Год I.

## Паміж молатам і накавальняй.

Здарэньні апошніх месяцаў паказалі, што камуністычная прапаганда перакінулася на далёкія ад нас землі Азіі—у Індыю і Кітай, у прыняўшую радавую канстытуцыю Манголію, ды што знамяніта выкарыстала дзеля барацьбы з капіталістычным сьветам нацыянальны і рэлігійны рух сярод мусульманскіх народаў, скіраваны перад усім проці Англіі.

Англія, ведама, страшэнна за гэта абурана на Радавы Саюз, і найбольш яркім выяўленьнем гэтага абурэньня зьявіўся разрыў англійска - радавае таргове умовы. Затое другія дзяржавы Эўропы паціху трыумфавалі: з аднаго боку камунізм даецца ў знакі ня ім „беспасрэдна, а аднэй толькі Англіі—„каралеве мораў“; з другога—перанос дзейнасьці камуністаў на Усход—у заморскія краіны якбыццам забясьпечываў Эўропу ад магчымасьці болей-меней паважных камуністычных выступленьняў на эўрапэйскай тэрыторыі—асабліва пасьля таго, як Баўгарыя перамагла ў сябе пасьпяваўшы тамака магутны народны пераварот, а Югаславія задушыла парляманцкую дзейнасьць харвацкіх незалежнікаў.

I раптам,—быццам гром з яснага неба—выбухае камуністычная рэвалюцыя ў Эстоніі! Выбухае, хаця эстонскі суд толькі-што „забясьпечыў“ дзяржаву ад пагрозы з боку тайных камуністычных арганізацыяў, засудзіўшы на многалетнюю катаргу многа дзесяткаў камуністычных дзеячоў... Палілася нават кроў расстрэляных камуністаў. Але іменна гэта і было як-быццам сыгналам дзеля аружнага выступленьня эстонскіх камуністаў проціў сучаснае буржуазнае ўлады.

Праўда, рэвалюцыя ў Эстоніі не ўдалася, але самы факт не перастае ад гэтага быць сымптаматычным: ён як-быццам запавядае *камуністычную офэнзыву ў Эўропе.*

Даволі паўзірацца на карту Эстоніі, каб сказаць наперад, што паміж ёй і ССРР ня можа ніколі быць добрых адносінаў. Запраўды: гэта вузенькая палоска зямлі, якая — разам з Латвіяй—адразае вялізарнай краіне ўсякі доступ да Балтыцкага мора праз некалі найбольш жывыя порты яго, ад якіх залежыць лёс заходніх часьцін ССРР, у тым ліку і БСРР. Ведама, захаваньне незалежнасьці гэтых новых дзяржаў у значнай меры залежыць ад таго, ці яны здолеюць так наладзіць свае адносіны з ССРР, каб апошні ня меў прычыны быць нездаволеным з іх істнаваньня. Але, пакуль істнуюць такія вялізарныя розьніцы ў унутраным ладзе ССРР і дэмакратычных балтыцкіх рэспублік, датуль трудна гаварыць аб поўнай згодзе паміж апошнімі і іх вялізарнай усходняй суседкай: бо-ж і Эстонія і Латвія вельмі баяцца, што адкрыцьце граічных кардонаў прынясе ня толькі тавары з ССРР, але і—камуністычныя ўплывы!

Трэба думаць, што выбух камуністычнае рэвалюцыі ў Рэвелі (цяпер — Талін) мае пад сабой глыбокую палітычную падставу. Эканамічнае жыцьцё ССРР, ня гледзячы на ўсе перашкоды, крапчэе і разьвіваецца. I пытаньне аб доступе да мора мае для ССРР ўжо ня толькі тэарэтычнае значэньне—на будучыню, але і практычнае — ужо на сяньняшні дзень. Але як толькі з *чырвонай* Эстоніяй ССРР мог бы назадзіць запраўды мірнае сужыцьцё, дык эстонскія камуністы, разумеючы гэта, і надумаліся лепш самым пайсьці на стварэньне адзінага сацыяльнага фронту з ССРР, чымся ждаць магчымага ўраду ад апошняга...

Тут гожа адзначыць яшчэ адзін мамэнт, характэрны на палажэньне балтыцкіх рэспублік. Мы маем на думцы Латвію, якую жджэ супольны з Эстоніяй лёс. I пэўне-ж тую трывогу, якую перажывае — пасьля выпадкаў у Эстоніі — Латвійская рэспубліка, надумаліся выкарыстаць польскія палітыкі з эндэкамі на чале: „Gaz. Warsz.“ дамагаецца ў Латвіі аддачы Польшчы шасьцёх беларускіх валасьцей Латгаліі, пагражаючы Латвіі аружжам іменна ў мамэнт, калі ў Эстоніі камунізм як-быццам распачаў наступленьне...

Мамэнт, як бачым, можа аказацца рашучым для балтыцкіх рэспублік; яны прымушаны зрабіць выбар паміж дзьвюма канцэпцыямі: ці—праз камунізм—ісьці насустрэчу ССРР, ці—дарогай тэрыторыяльных уступак на карысьць Польшчы—шукаць апоры ў апошняй дзеля барацьбы з камуністычным Усходам.

Ведама, мы ня думаем, каб балтыцкія рэспублікі афіцыяльна зрабілі гэты выбар ужо сягоньня. Але выбух у Рэвелі—з аднаго боку, польскія пагрозы—з другога — прымушаюць іх ужо цяпер вызначыць дарогу дзеля штодзеннае палітыкі ў бліжэйшыя гады: кіравацца на Усход, ці—на Захад?

## Расстрэлы у Эстоніі.—Армія на радавай граніцы!

Паводле печатных вестак, назаўтрае пасьля няўдаўшагася перавароту ў Рэвелі былі расстраляны па прыгавору ваеннага суда 20 палонных камуністаў.

Афіцыяльны камунікат з 3 сьнежня абвяшчае аб аддачы пад ваенны суд 17 камуністаў, з якіх 7 засуджаны на сьмерць і ўраз жа расстраляны.

ПАТ абвяшчае: паводле вестак з Рыгі, **эстонская армія, зложаная з 50 тысяч душ, паслана на радавую граніцу.**

Як відаць, **пагроза інтэрвэнцыі з боку ССРР**, яшчэ не зьліквідавана.

Венскія газэты даведаліся, што ў мамэнт выбуху рэвалюцыі радавая эскадра адбывала маневры каля эстонскага ўзьбярэжжа і адыйшла стуль, калі выясьнілася няўдача камуністаў.

## „Санацыя Крэсаў“.

### 1. Галоўнае ліха.

З вялікім здаваленьнем эндэцкі пасол Рымар пералічае ў „Gaz. Warsz.“ усё, што „зрабіў“ урад п. Грабскага для „Усходніх ваяводзтваў“, пакуль што, праўда, яшчэ толькі... ў бюджэце на 1925 год...

Праўда і тое, што п. Рымар вялікую частку гэтай заслугі ўраду п. Грабскага ўскладае на... „дывэрсыйныя банды“, якія „скланілі“ ўрад да арганізаваньня адміністрацыі, абароны граніцы і асыгнаваньня вялікіх сумаў на разбудову і розныя гаспадарчыя патрэбы“. Прыгадзіліся, відаць, і банды...

„Няма ліха без дабра!“, кажа народная прыказка.—I чэсьць і хвала таму ўраду, які-бы запраўды знайшоў у сябе добрую волю і сілу дабром перамагчы „трагічныя здарэньні“ таго зла, якое пануе і шалее на „Крэсах“... Бо-ж здаецца,—нават паны Рымары, праўда, памаленьку, і яшчэ навыварат, але ўжо неяк пачынаюць разумець, што гэта—адзіны шлях, які запраўды вядзе да нечага добрага...

---

Што зло, вялікае, страшэннае „ліха“, аб‘ектыўна істнуе, што яно выклікае ўсе гэтыя „фатальныя стасункі“, усе „трагічныя здарэньні“, гэта агульна прызнана і сцьверджана, здаецца, ужо ўсімі, бяз вынятку.

Спрэчка не аб тым.

Што-ж гэта за „ліха“, — прынцыповае ліха, якое спараджае ўсё тое, што робіцца?

Гэтае галоўнае „ліха„ „Крэсаў“—у тым, што яны перад усім—„Крэсы“...—„Крэсы“—гэта значыць нешта другараднае, калі не апошняе, — нешта, што на канцы, на краю, што ня істнуе для сябе, ня мае ўласнага сэнсу і зьместу жыцьця, свайго самамэтнага жыцьцёвага цэнтру, які павінна мець кожная жывёла...

„Кресы“ — гэта-ж нейкі дадатак, прыростак, тупік,—акурат, як той „адростак сьляпой кішкі“, які, як сцьверджана дактарамі, ня толькі зусім непатрэбны ў агульнай эканоміі кішачнага шляху, але, наагул, робіць шмат шкоды ўсяму арганізму... Бо-ж якраз, як на нашых „Крэсах“, у гэтым сьляпым „адростку“ зьбіраюцца з усей, так сказаць, „Рэчыпаспалітай чалавечага арганізму“ розныя дрэнныя, — „нястраўныя“ адпадкі, якія тут толькі гніюць, плодзяць заразу і ў кожны мамэнт могуць выклікаць, так сказаць, „дывэрсыйнае запаленьне“ на гэтых „Крэсах“... А тады—бяз помачы хірурга,—бяз пэўнае апэрацыі — справа канчаецца сьмерцяй... Пры сучасным стане „дэмакратычнай мэдыцыны“ апэрацыя гэтая, праўда,—зусім лёгкая і простая, але трэба перад усім не прапусьціць мамэнту, бо можна спазьніцца, і тады і апэрацыя ўжо не паможа... Апэрацыя — у тым, што, стаўшыся з непатрэбнага ўжо шкодным, гэны „крэсавы тупік“,—сьляпы, ня маючы нікуды выхаду, неспаўняючы ніякай, як кажуць, функцыі (службы) ў арганізьме, ня служачы „ні мастом—ні бар‘ерам“, зьяўляючыся толькі месцам заразы і згубы „прыростак“—папросту адразаецца нажом хірурга...

Гэтая фактычная, **„стаўшаяся, шкоднай, непатрэбнасьць“** адростку „Крэсаў“—вось галоўнае зло, ад якога гніюць і яны і заражаецца ад іх „запаленьнем“ увесь арганізм Польшчы...

Усе рознародныя і многатворныя віды і разнавіднасьці нашага „крэсавага ліха“ плывуць з гэтай галоўнай крыніцы, з лягічнай неабходнасьцяй выцякаюць з яе...

Беззаконьне, бяспраўнасьць гэтага загнанага на „Крэсы“, „другараднага сьвету“—толькі просты вынік яго „крэсовасьці“... Увесь „каронны арганізм“ Польшчы неяк чуе ўжо **арганічна** непатрэбнасьць і небясьпеку, пагражаючую яго жыцьцю ад гэтага „заражанага“ адростку...

Але „гістарычная“ (?) сувязь яго з... „сьляпой мацежай“—такая моцная, што ўжо выразна захварэўшая на гэтае „запаленьне адростку“ Польшча больш за ўсё на сьвеце—больш, чым сьмерці ад заражэньня крыві,—баіцца і ня хоча апэрацыі... бываюць, як ведаюць дактары, такія хворыя...

---

Трэцім родам „крэсавага ліха“ зьяўляецца матар‘яльная бяда—беднасьць зямлёй, згалеласьць, зруйнаванасьць галоўнага чалавечага масыву краю, бязрадная руіна сялянскай гаспадаркі, якая дарэшты руйнуецца праўнымі і зусім бяспраўнымі паборамі і падаткамі—на карысьць далёкага, няведамага насяленьню „Крэсаў“, няпрыхільнага да яго цэнтру, які не прызнае насяленьня „Крэсаў“ роўнай і вольнай часткай свайго арганізму... Дык гэта-ж і ёсьць галоўная прычына „запаленьня“... Бо тая кроў, будаўнічка ўсяго жыцьця, усякай тканіны ў жывым целе, зьяўляецца адначасна і тым „войскам“, якое само змагаецца, само перамагае ўсялякую заразу. Гэтая вольная, жыцьцяносная кроў—народная энэргія, народная праца, багацьце, грошы, „золата“—толькі выпампоўваецца, толькі высысаецца з „Крэсаў“ — цэлай сыстэмай і арміяй „сасуноў“, але не варачаецца назад—у народныя кішані,—у гаспадарчыя, працоўныя „клеткі“ „крэсавага“ сялянства... Дык ня дзіва, што гэтыя гаспадарчыя працоўныя „клеткі“ руйнуюцца дарэшты, гніюць, запаляюцца,—пагражаючы ўсяму арганізму „пэрытонітам“...

Ці-ж трэба пералічываць далей і далей усе добра ведамыя ўсім рады і віды нашага „крэсава-

га“ ліха, што плывуць з аднэй галоўнай крыніцы—„крэсовасьці Крэсаў“!?

---

Гэтыя „Крэсы“ — **„сьляпыя“**, як той двойчы сьляпы „адростак сьляпой кішкі“... Сьляпыя, бо ня маюць сьвятла—школьнага і пазашкольнага..— Народ ня мае школы—зразумелай і любай насяленьню...

„Крэсы“—**нямыя**, двойчы нямыя, бо ня маюць ані чутнай і галоснай у сваім жыцьці мовы, ні—вушэй, якія-б пачулі стогны і скаргі ў гэтай мове... „Крэсавы“ народ ня мае прызнанай і шанаванай дзяржавай мовы, мовы агульна зразумелай, творачай для народу яго публічна-грамадзкае жыцьцё, злучаючай, зьвязываючай увесь раськіданы, як гарох па полі, народ у адзіны духоўны арганізм...

Бо-ж мова народная, ня гледзячы на Тугуттаўскія „ustawy językowe“,—запраўды, больш у п.п. Тугутта і Скшыньскага „на языку“, чым у нас на дзеле... Мова дэмакратычнага гаспадара краю — загнана „на Крэсы“, ня прызнана, пагарджана, забаронена, адкінена. А мовы накіненай народ не разумее і—ня хоча...

„Крэсы“—запраўдны „сьляпы тупік“, „сьляпая дзіра“,—бо тут—нейкая мяжа, рубеж, „kres“ сьвету, за якім быццам ужо і ніякага сьвету няма... З „Крэсаў“—няма дарогі далей... Дзеля таго яны і гніюць—гніюць усяляк, а перад усім гаспадарча...

Возьмем малы прыклад. — Перад вайной у нас усюды нават сяляне, ня кажучы ўжо аб панох і падпанках, пачалі разводзіць сады... Наш беларускі яблык каціўся, як на Заход, так і на Усход... — Усё без астатку зьядалася Маскоўскім і Петраградзкім рынкам, даючы гэтым нямалую падпору гаспадарцы... Цяпер Дунілавіцкія і Дзісьненскія і іншыя сады парасьлі мохам, зьдзічэлі. Яблык загнаны ў „крэсавы тупік, — і той гніець. Што-ж казаць аб жывых душах?!.

**Праз „Крэсы“ няма дарогі.** А мы-ж ведаем, што гэта—сьмерць!.. Мы ведаем, што гэта—эканамічны абсурд,—бо ўвесь сьвет ёсьць адзінае вялікае арганічнае гаспадарчае цэлае... Мы ведаем, што перад усім гэткім адзіным гаспадарчым арганізмам зьяўляецца наша Беларусь, ня кажучы ўжо аб іншых арганічных сувязях, разрэзаных, ці правільней—перавязаных мёртвымі вузламі—у тупікі з абодвух бакоў—у Рызе...

Вось у вельмі кароткім, схэматычным нарысе—галоўная крыніца фатальнага „крэсавага ліха“, ад якога гніець яшчэ жывы і з усіх сілаў жадаючы жыцьця і здароўя—наш Край.

---

Урад п. Грабскага абвяшчае, што ён пачаў цяпер барацьбу — вялікую барацьбу, як згодна пяюць польская правіца і лявіца.

„Санацыя скарбу“—скончана, пачынаецца — гэтак-жа шырака і грунтоўна — **„санацыя Крэсаў“**. Вось афіцыяльны лёзунг новага бюджэту Польшчы на 1925 год!

„Штандаровым“ чалавекам першай задачы зьяўляўся п. Грабскі. „Чалавечым сьцягам“ другой праблемы выступае п. Тугутт.

Праблема як-быццам павінна быць вырашана **„санацыяй Крэсаў“ ад запаленьня**—без хірургічнай апэрацыі...

Вось за якую задачу ўзяўся віцэ-прэм‘ер Тугутт...

П. Грабскі прыгатаваў п. Тугутту адпаведныя „лекі“: „здаровы бюджэт“, „здаровыя грошы“, бо бяз гэтага, запраўды-ж, ня можна ступіць ані кроку...

Новы бюджэт—„крэсавы бюджэт“—гэта-ж, відаць, і ёсьць той самы рахунак „аптэкара“, п. Грабскага, на заказ „доктара“, п. Тугутта, у якім якраз і зьмяшчаюцца ўсе тыя „лекі“, якімі будуць лячыць у 1925 годзе хворыя на запаленьне „Крэсы“...

Дык вельмі цікава пераглядзець гэты рэцэпт—рахунак, гэты бюджэт „Усходніх Крэсаў“, якім... гэтак захопліваецца пасол Рымар у „Gaz. Warsz.“ і ў „Dz. Wil.“ p. Obst‘a...

**Д-р Пютуа.**

(Канец будзе).

# Аб чым пішуць.

## З галерыі „казённых беларусаў“.

„Гудок“ дае рад характарыстык так-званых „казённых беларусаў“.

Што-ж гэта за „зьвярына„? А вось, як горадзенская аднаднёўка адказвае на гэтае пытаньне:

> Пад гэтай назовай мы разумеем тых беларускіх „дзеячоў“, ці, называючы адпаведным іменем, палітычных авантурнікаў, якія знаходзяцца на казённай службе, як штатныя „беларусы“, нешта падобнае да так званых „штатных учоных евреев“ пры царскіх генарал-губэрнатарствах. Казённых беларусаў ня можна зьмешываць з ідэёвымі полёнафіламі дзеля таго, што апошнія маюць свае ўласныя перакананьні і ў працы сваёй кіруюцца, сваёй уласнай праграмай. Казённыя-ж беларусы сваёй праграмы ня маюць, а праводзяць у жыцьцё праграмму ўрадовую. Па складу сваёй мысьлі яны зусім нават не полёнафілы, але гэта не перашкаджае ім верна служыць ураду і адыгрываць ролю гэнаралаў на мяшчанскіх вясельлях,—веда-ма, за добрую заплату.

Ахарэктарызаваўшы далей вядомых ужо нашым чытачам „дзеячоў“ гэткага тыпу з Валэйшай на чале, „Гудок“ дае партрэт менш вядомага ў нас Фёдарава. Гэны пан паходзіць з Горадзеншчыны.

> Сын царскага жандара і недавучка, ён пад час вайны выскачыў у прапаршчыкі. Пасьля бадзяўся па ўсіх авантурнічых арміях, аж урэшці, выйшаўшы ад Балаховіча ў чыне маёра, прыняўся за ўсялякія справы і камбінацыі, у скутку якіх меў шмат судовых распраў за фальшы, скандалы і іншыя ліхадзействы. Найвялікшым з іх зьяўляецца справа з багатым горадзенскім купцом Крэйцарам.
>
> Фёдараў, давёўшы дачку Крэйцара пры помачы кокаіны і ўсялякіх іншых сродкаў да няпрытомнасьці, вывез у Скідэль і там ажаніўся. Бацька, як і трэ‘ было спадзявацца, ня прызнаў гэтай сувязі і перадаў справу пракуратуры. Дачка-ж Крэйцара прызналася, што Фёдараў паіў яе нейкімі плынамі, і яна сама ня ведала, што робіць. У скутку ўсяго гэтага Фёдараў атрымаў некалькі месяцаў астрогу і ўцёк у Варшаву. Там ён залажыў „Камітэт да беларускіх спраў“ і аж да гэтых часоў хаваецца ад прасьледаваньня крымінальнай паліцыі ў габінэтах усялякіх „незачэпных“. А дзеля таго, што асоба яго ўжо вельмі скампрамітавана, ён хаваецца за плячыма нейкага Цяўлоўскага.
>
> Нядаўна гэтыя два тыпы былі ў Горадні з мэтай залажыць філію свайго камітэту. Вось што піша аб гэтым выходзячы ў Горадні „Nadniemeński Kurjer“.
>
> На гэтых днях быў у Горадні вядомы на тутэйшым грунце беларускі дзеяч—пан Валадзімір Фёдараў, які маніўся залажыць тутака Камітэт да беларускіх спраў. У гэтай мэце адбылося ў „Кіеўскім“ гатэлі сабраньне беларускіх „дзеячоў“, на якім старшыняваў „беларус“ п. Пяткеві ( ! ред.).
>
> Пасьля шмат выпітай водкі быў сфармаваны Камітэт і выбраны ўрад, у склад якога ўвайшлі п. п. Пяткевіч, Міткевіч *), Шымбарэвіч.
>
> Адразу пасьля сфармаваньня пачалася жывая дзейнасьць Камітэту і абмен палітычных перакананьняў пры помачы „fruwających w powietrzu butelek“. Трэба спадзявацца, што так энэргічна распачатая акцыя вельмі прычыніцца да аздараўленьня стасункаў на беларускіх крэсах.
>
> Найцікаўшым у гэтай справе было-б даведацца, ці праўда, што скампрамітаваны на тутэйшым грунце п. Фёдараў атрымаў у Варшаве пэўныя сумы на беларускую мэту. А калі гэта праўда, дык „czy miarodajne czynniki“ перад выдачай гэтых сумай „zasięgały u miejscowych władz zdania w tym względzie“.

Да гэтае характарыстыкі мы можам дадаць яшчэ адзін характэрны факт. Месяцы два таму назад гэны самы Фёдараў зьявіўся быў на віленскім груньце і абыйшоў рад вядомых беларускіх дзеячоў, запрашаючы іх на нейкую нараду ў Варшаве. Фёдараў заяўляў, што ён на гэта ўпаўнамочаны вышэйшай уладай, што на яго рукі асыгнаваны грошы на гэную нараду, ды стараўся кожнаму ўткнуць па 200 злотых на падарожу, кажучы, што на вагзале прыежджых будуць чакаць аўтамабілі, будзе прыгатавана гасьцініца і... банкет!

Аднак місія Фёдарава скончылася: ніхто з паважаных дзеячоў запросінаў ня прыняў...

Характэрна! **А—віч.**

*) Міткевіч апратэставау сваю прысутнасьць.

# Інтэрпэляцыі Беларускага Пасольскага Клюбу.

**№ 130**—да п. міністра рэлігійных вызнаньняў і народнае асьветы ў справе **невыкананьня языковага школьнага ўставу**.

У вёсцы Угрыня, Слонімскага пав., тры гады істнуе польская народная школа, у якую сьцягавалі беларускіх дзяцей грашовымі карамі. У працягу трох гадоў дзеці ніякіх поступаў у навуцы не зрабілі, ды толькі набралі адразы да самае навукі, а самая польская школа сталася для іх нечым страшэнным.

У сёлетнім годзе, апіраючыся на соймавы устаў, жыхары вёскі Угрыня зрабілі прыгавар аб ператварэньні польскае школы ў школу беларускую. Адносн ае паданьне ў гэтай справе было перaслана 11 верасьня с. г. школьнаму інспэктару ў Слоніме. Аднак, школьны інспэктар не дaець насяленьню школы ў яго роднай мове, ды грашовымі штрафамі прымушае бацькоў пасылаць дзяцей у польскую школу, якая дзеля гэтага сталася вогнішчам нянавісьці тутэйшага насяленьня да ўсяго польскага.

Дзеля вышэйшага інтэрпэлянты пытаюцца ў п. міністра: 1) ці маніцца ўраз-жа прыступіць да выпаўненьня школьнага ўставу, з 31. VII. 1924 г.? 2) ці маніцца перастаць дэнацыяналізаваць беларускіх дзяцей дарогай прымусовага сьцягаваньня іх у польскія школы?

Варшава, 25 лістапада 1924 г.

**№ 131**—да п. старшыні рады міністраў у справе **перацяжэньня сялянскага насяленьня падаткамі**.

Апэтыты падаткавых уладаў пры спагоне квотавых і рэпартыцыйных падаткаў ідуць так далёка, што надужываюць улады скарбовых органаў і пярэчаць асноўным падставам ападаткаваньня. Падаткавыя ўлады пры азначэньні і разьмяшчэньні падаткаў зусім ня лічацца з падаткавай здольнасьцяй плацельнікаў, не бяруць пад увагу даходу паасобных адзінак, на якім толькі і можна грунтавацца пры вызначэньні падаткаў, але цягнуць з сялянства ня раз увесь яго даход брутто. Апрача скарбовых уладаў, падаткуюць т.-зв. павятовыя соймікі і гмінныя ўрады, якія, створаныя ў супярэчнасьці з прынцыпамі самаўрадаваньня, ды зложаныя, дзякуючы гэтаму, блізу выключна з клясаў уласьніцкіх і заможных, увесь цяжар утрыманьня публічнага жыцьця раскладаюць на сялянства. Пры гэтым агульным зьявішчы бывае тое, што пры ападаткаваньні сялянства адпаведныя ўлады ня лічацца нават з тым, што іншыя гаспадаркі або й цэлыя вёскі ў часе вайны былі зусім зруйнаваны, і што палова іх не адбудавалася, а калі хто крыху адбудаваў сваю гаспадарку, дык гэта без дзяржаўнае дапамогі.

Вынікам такога ападаткаваньня, пазбаўленага падставаў скарбовасьці і законнасьці, зьяўляецца тое, што падаткі спаганяюцца дарогай масавых экзэкуцыяў, якія нішчаць маемасьць, жывы і мёртвы інвэнтар, хатнія рэчы, вопратку і ўсялякія другія падставы істнаваньня сялянства.

Дзеля ілюстраваньня гэтага падаем вось гэткія факты.

1) Вёска Бялка, Нараўскае гміны, пав. Бельск-Падляскі, мае 930 маргоў, у часе сусьветнае вайны была зусім зруйнавана, цяпер толькі часьцю адбудавана, дзякуючы нязвычайным высілкам і ўласнай працы зруйнаваных сялян, бяз ніякае дзяржаўнае дапамогі.

Сяляне в. Бялкі ў сёлетнім годзе абложаны гэткімі падаткамі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | першая рата грунтавога падатку, платная—да 31. V. 24 . . | 190 | зл. |
| 2. | другая рата—да 15. XI . . . | 221,50 | „ |
| 3. | грунтавы падатак—да 28.XI. . | 465 | „ |
| 4. | дарожная аплата—да 1. XI. . | 286,65 | „ |
| 5. | падатак ад хатняе жывёлы—да 10. VII . . . . . . . . . . | 166,56 | „ |
| 6. | I-ая рата пад. ад маемасьці — да 10. X . . . . . . . . . | 78,57 | „ |
| 7. | II-ая рата пад. ад маемасьці— да 10. XII . . . . . . . . . | 159,14 | „ |
| 8. | падатак ад памешканьня (ўзяты варочаецца)—да 30. V . . | 77 | „ |
| | разам | 1.648,41 | зл. |

Да гэтага далучаецца звыш 1.000 злотых пажарнае страхоўкі і павіннасьцяў натурай.

2) Вёска Трасьцянка, Нараўскае гм., пав. Бельск-Падляскі, мае 2624 маргі зямлі, зруйнаваная вайной, дагэтуль неадбудаваная.

Сяляне гэтае вёскі абложаны такімі падаткамі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | першая рата грунтав. падатку, платная — да 31. V. 24 . . . | 519,60 | зл, |
| 2. | другая рата—да 15. XI. . . . | 519.60 | „ |
| 3. | грунтавы падатак—28. XI. . . | 1312 | „ |
| 4. | дарожная аплата—да 1. XI. . | 966,37 | „ |
| 5. | падатак ад хатняе жывёлы — да 12.VI . . . . . . . . . . | 519,25 | „ |
| 6. | пажарная страхоўка—да 15.VI. | 850 | „ |
| 7. | першая рата пад. ад маемасьці—да 10. X. . . . . . . . . | 141,30 | „ |
| 8. | другая рата пад. ад маемасьці—да 10. XII . . . . . . . | 282,60 | „ |
| | разам | 5110,60 | зл. |

3) Зусім гэтак сама стаіць справа ў вёсцы Давідовічы, Нараўскае гміны.

Сума пералічаных падаткаў прадстаўляе некалькі сот працантаў даваенных падаткаў. Калі-ж прымем пад увагу паваеннае зьбядненьне, нястачу зямлі, якая йшчэ павялічваецца ад таго, што часьць зямлі суседніх абшарнікаў аддадзена прыбыўшым польскім вайсковым асаднікам,— дык зробіцца ясна, што селянін, пазбаўлены пабочных крыніцаў заробку, ня ўсілах нясьці накладаныя дзяржаўнымі ўладамі цяжары. Спаганяньне-ж усялякіх падаткаў дарогай сэквэрстрацыі маемасьці плацельнікаў павялічвае нездаваленьне сялянскіх масаў пануючай уладай. Гэтае нездаваленьне расьце тым балей, што падаткі, спаганяны з іх, ідуць на здаволіваньне патрэб дзяржавы, якая не клапоціцца аб долі беларускага сялянства. Доказам гэтага зьяўляецца адмова дзяржаўных органаў адчыняць ня толькі дзяржаўныя, але і прыватныя беларускія школы. Жыхары памянёных вёска Трасьцянкі і Бялкі дамагаюцца беларускае школы. Польскія ўлады, спаганяючы цераз-мерныя падаткі, ня толькі ня думаюць даць ім дзяржаўную школу ў роднай мове, але і не даюць дазволу на прыватныя школы.

Дзеля вышэйсказанага інтэрпэлянты пытаюцца ў п. старшыні рады міністраў: 1) ці маніцца зрабіць рэвізію падаткаў і зьменшыць падаткі, наложаныя на вёскі Трасьцянку, Бялку і Давідовічы? 2) ці маніцца ўраз-жа прыступіць да выпаўнень-

ня ўставу аб даваньні дзяржаўных крэдытаў на адбудову зьнішчаных вайной гаспадарак? 3) ці маніцца адчыніць у вёсках Трасьцянцы, Давідовічах і Бялцы беларускія школы?

Варшава, 28 лістапада 1924 г.

# Палітычны агляд.

## У Польшчы.

### Прамова мін. Тугутта.

Падаем больш дакладна—паводле „Kur Polsk.", прамову мін. Тугутта ў адміністрацыйнай камісіі проці прапазіцыі п. Зьвежыньскага аб увядзеньні вынятковага стану на „Крэсах".

Нясяленьне „Крэсаў" ня гэтулькі не лёяльна адносна да Польскай дзяржавы, як стэрарызавана і здэз'орынтавана хаосам (непарэдкам). Увядзеньне вынятковага стану не супакоіць насяленьня. Хутчэй трэба палепшыць адносіны праз паправу адміністрацыі (добрыя словы, але ж толькі словы!) і паляпшэньне дабрабыту насяленьня. Вынятковы стан быў-бы новай вывескай, якая-б нічога зусім у запраўднасьці не зьмяніла (вось дык праўда,—бо ўжо вынятковы стан, фактычна, ёсьць даўно, а ляпей аб ім афіцыяльна ня крычаць!). Але рэзультаты гэтага ўвядзеньня маглі-б быць такія, што на міжнародавым полі паставілі-б пад запытаньне правы Польшчы да „Крэсаў". Трэба-ж памятаць, што шмат дзяржаваў не прызнаюць яшчэ нашага вырашэньня справы нашых усходніх граніцаў, а бальшавіцкая агітацыя ўва ўсіх сталіцах Эўропы толькі і чакае на гэты мамэнт, каб выкарыстаць яго дзеля апратэставаньня правоў Польшчы на „Крэсы". Вынятковы стан мог-бы быць уведзены толькі тады, калі-б на „Крэсах" пачалося запраўднае паўстаньне. Але, пакуль што, вайны там, ня гледзячы на ўсё (!), яшчэ няма (!). Срэдзтвы, якія мае ў сваіх рухах урад, зусім выстарчаюць: маемо-ж на бандытаў даразныя суды, пракурораў і сьледчых... (толькі?!). Калі толькі наша палітыка зробіцца больш гібкай (sprężystą) і адналітай (слухайце, п. Ратайскі!), дык можна будзе хутка завясьці парадак. Урад ня пойдзе шляхам Керанщчыны, але, наадварот, на гвалты і праступленьні будзе адказываць, як належыць, — бо гвалт адбівацца сілай. Але сіла ня вылечыць хворых адносінаў. Урад просіць цярплівасьці, бо цудаў магічных рабіць ня ўмее. Не належыць трактаваць „Крэсаў", як Камэруну (нямецкая калёнія ў Афрыцы, дзе нямецкія „лейтэнанты" рабілі, прыблізна, тое, што рабілі за часоў „мядова-пілсудскіх" дый і цяпер яшчэ робяць у нас польскія ўланы і іншыя), а трэба стварыць адпаведныя адміністрацыйныя і эканамічныя варункі, дык парадак пасьля гэтага прыдзе сам".

Пасьля прамовы міністра прамаўлялі беларускі дэпутат Ярэміч і Уземблс (PPS).

Дыскусія ня скончана, бо запісалася яшчэ 17 прамоўцаў.

### Выкарыстаньне „паўнамоцтваў".

Праз нейкі месяц канчаецца тэрмін дадзеных Соймам п. Прэзыдэнту Рэспублікі (папросту — ураду п. Грабскага) „надзвычайных паўнамоцтваў" у галіне законадаўства,—перад усім дзеля „санацыі скарбу".

Урад ужо раз атрымаў ад Сойму прадоўжаньне на другія 6 месяцаў гэтых вельмі шырокіх і ў значнай меры „касуючых" уладу Сойму паўнамоцтваў.

І вось цяпер быццам урад ня будзе больш прасіць далейшага працягу паўнамоцтваў, і дзеля таго, як піша „Gaz. Warsz.", горача сьпяшаецца выкарыстаць астаўшыся месяц, як належыць.

### Новы кангрэс у справе „ўсходніх ваяводзтваў".

У гмаху мін. ўнутр. спраў у аўторак пачаўся новы кангрэс у справе „ўсходніх ваяводзтваў" (былых „Крэсаў").

На кангрэсе прысутны: віцэ-прэм'ер Тугутт, мін. Ратайскі, усе „крэсавыя" ваяводы, шэф генар. штабу ген. Галер, вышэйшыя ўрадоўцы мін. ўнутр. спраў, галоўны камандант дзярж. паліцыі, камандзір корпусу пагранічнікаў з сваім шэфам штабу, шэф II аддз. генар. штабу („дэфэнзывы") і інш.

Мэта зьезду, які меўся засядаць 2 дні, праглядзець і зацьвердзіць апрацаваныя ўжо даўно праекты „санацыі" для ўсходніх ваяводзтваў.

Гэтыя праекты, як піша „Gaz. Warsz.", прайшоўшы праз Раду Міністраў, зараз-жа часьцю будуць апублікаваны, як распараджэньні п. Прэзыдэнта, часьцю будуць пададзены ў Сойм.

### Новы праект мін. Тугутта.

Віцэ-прэм'ер Тугутт апрацаваў праект т. зв. „Крэсавай Рады", замест „камісіі 4-х", („камісіі экспэртаў"). Рада меціме дарадчы голас, і ў склад яе будуць запрошаны і прадстаўнікі меншасьцяў.

### Дывэрсыйная работа.

Паміж станцыямі Лясная і Баранавічы ехаўшая з інжэнерам Вэрнэрам і колькімі служачымі дрэзіна наскачыла на крук, убіты паміж рэльсамі, і перакулілася. Разьбіты, але жывуць, Вэрнэр і шофэр. Дазнаньне вядзе паліцыя.

Гэтымі-ж днямі паміж Івановічомі і Даманевічамі сторож заўважыў адкручаныя гайкі на рэльсах, што няўхільна выклікала-б катастрофу з першым-жа цягнікам. Дазнаньне вядзе паліцыя.

### „Аўстрыяцкім розумам".

У Варшаву прыехаў зусім ужо забыты былы „Намесьнік Галіччыны" (намесьнік асобы аўстрыяцкага імпэратара Франца Язэпа!..) граф Бобжыньскі, з якім цяпер усе „канфэруюць": то п. прэм'ер Грабскі, то п. віцэ-прэм'ер Тугутт, стараючыся набрацца ад яго „аўстрыяцкага розуму" — у цяжкай „акцыі санацыі Крэсаў"...

Можа і паможа...

Бо-ж самі ўкраінцы кажуць, што за панаваньнем аўстрыяцкай манархіі, без параўнаньня, лягчэй жылося, як пад жондамі „дэмакратычнай" Польскай Рэспублікі...

Ці не пашле п. Прэзыдэнт ізноў гр. Бобжыньскага сваім Намесьнікам у Галіччыну?...

Ці не пашукаць п.п. Грабскаму і Тугутту—за адным заходам—і п.п. Вяровкіна і Любімава?..

Таксама—ня горш жылося, як цяпер...

Санацыя—дык санацыя!

Калі дэмакратычна-польскага не хапае, дык чаму-ж не спрабаваць „zasięgnąć" аўстрыяцкага ці расейскага?..

— Без фальшывага стыду—найляпей...

### „Найвышэйшыя ваенныя ўлады" ў Польшчы.

Барацьба паміж Сікорскім і Пілсудскім ідзе далей. Спрэчка йдзе аб так званай „арганізацыі найвышэйшых уладаў у войску",—ці, прасьцей, павароту на службу ў армію п. Пілсудскага, для якога ніяк ня могуць стварыць такога становішча, каб ён быў і здаволены ў сваей амбіцыі „ваеннага генія" („польскага напалеона"!) і адначасна... няшкодны для справы, як... „нефаховец". Цяпер пасрэднікам паміж Пілсудскім і Сікорскім выступае мін. Тугутт, але пакуль што без рэзультатаў.

Калі аб гэтым пасрэдніцтве даведаліся паны эндэкі, зараз-жа выслалі да прэм'ера дэлегацыю, якая катэгарычна патрэбавала ад п. Грабскага, каб 1) справа аканчальна вырашалася Соймам, але не прэзыдэнтам, і 2) „каб трактавалася „рэчова", але не „асабова"...—інакш кажучы, незалежна ад асобы п. Пілсудскага.

### Новы законапраект аб чужаземцах.

У бліжэйшыя дні мае адбыцца канфэрэнцыя прадстаўнікоў розных міністэрстваў дзеля разгляну апрацаванай ваенным міністэрствам (пане мін. Ратайскі!—што-ж гэта такое?!) новы праект закону аб „obcokrajowcach".

### „Разбудова Крэсаў".

„Для ўзмацненьня стану бясьпечнасьці" ў Віленскім ваяводзтве пастаноўлена стварыць—4-ую экспазітуру сьледчай паліцыі ў Глыбокім; паліцэйскі пастарунак у Нова-Вялейску атрымаў падвышэньне — у Камісарыят; апроч таго, створаны 2 камісарыяты на гранічных станцыях у Турмонтах і Загацьці.

### Новыя „скорпіёны" для прэсы.

Міністар вайск. спраў разаслаў цыркуляр да ўсіх ваенных пракурораў, каб пільна сачылі за ўсімі прэсавымі „абразамі чэсьці войска і ваенных уладаў". З лістом гэткага-ж зьместу п. Сікорскі зьвярнуўся і да міністраў справядлівасьці і ўнутран. спраў.

Мы ведаем, які ідэал у гэтым сэнсе істнаваў у царскай Расеі, і як лёгка, пры жаданьні, усё падвясьці пад „абразу".

### Ізноў „крызіс„ у „Wyzwoleniu".

Толькі што выбраны старшыня клюбу „Вызваленьне"—сэн. Возьніцкі, не здалеўшы змовіцца з кандыдатамі на віцэ-старшыню — прадстаўнікамі розных слаёў і напрамкаў клюбу, зрокся старшынства.

Пасьля доўгіх спрэчак выбраны 27 галасамі пры трэцім галасаваньні прадстаўнік радыкальнага напрамку п. Рудзіньскі.

### Банкруцтва гандлёвай установы „Wyzwolenia".

„Gaz. Warsz." паведамляе аб тым, што „Targовы Саюз польскіх земляробаў" абвясьціў свае банкруцтва.

Газэта піша, што ў гэтым „Саюзе рольнікаў" ня было аніводнага рольніка, а былі „найвыдатнейшыя дзеячы Wyzwolenia" (групы Домбскага?).

Пасьля ўрадовай рэвізіі быццам аказалася, што, маючы вельмі малы закладовы капітал, саюз здалеў набраць у крэдыт з розных скарбовых установаў больш, як паўтара мільёна злотых... сьцьверджана, быццам, адсутнасьць бухгальтэрыі і г. д.

Наагул, доўгу за банкрутам — каля 2 мільёнаў злотых, газэта піша, што „арганізатарам" і патронам „Саюзу" быў пас. Домбскі.

Калі ўсё гэтае праўда, дык запраўды запяеш „пад Купалу": Кральлі—Брыльлі. — Вось кадрыльлі!..

### Забастоўка ў Лодзі.

Сёньня ўжо тыдзень, як трывае забастоўка ў Лодзі. Міністэрства працы колькі разоў зварачалася да прамыслоўцаў, запрашаючы на канфэрэнцыю з работнікамі; але гэтыя паны адказалі, што, пакуль работнікі трэбуюць павялічэньня платы, дык усякая канфэрэнцыя—бязьмэтная!..

### Камуністычная друкарня ў Варшаве.

15/XI паліцыя выкрыла, што ў аднэй друкарні ў Варшаве друкаваліся камуністычныя выданьні. Захоплена шмат гатовай камуністычнай літэратуры. Друкарню арандаваў „украінскі абыватэль" (?) Доманевскі.

### Камунікацыя Бярэсьце-Пінск-Гомель.

Гэтымі днямі адбылася ў Менску Польска-радавая канфэрэнцыя ў справе ўстанаўленьня беспасярэдняй камунікацыі Бярэсьце-Пінск-Гомель. Як піша Менскі „Młot", ужо нават падпісана ўмова. („Dz. Wil.").

## Узрост камунізму у Францыі.

„Gazeta Warszawska" друкуе карэспандэнцыю з Парыжа аб урачыстасьці пераносу цела Жорэса ў Пантэон. Газэта пры гэтым адзначае выступленьне на ўрачыстасьці францускіх камуністаў, характэрнае дзеля выяўленьня істотнае іх сілы ў Францыі.

„Ніколі йшчэ Парыж ня бачыў такой магутнай маніфэстацыі камуністаў на сваіх вуліцах. Ніколі йшчэ ня крычалі парыжскім буржуям пад вокнамі больш бясчэльным спосабам „сьмерць буржуазіі!" І большасьць іх, пэўне, падумала сабе, што аднак маюць крыху слушнасьці апазіцыйныя газэты, калі габінэт пана Эрыо раўнуюць з керанщчынай.

„Ужо выбары 11 мая паказалі, што камунізм у Францыі—дужэйшы за сацыялізм. За камуністычныя сьпіскі пададзена 875,812 галасоў, пад той час, як сацыялісты дасталі толькі 749,647 (дый то дзякуючы аб'яднаньню). Партыйныя арганізацыі сацыялістаў цяпер слабыя і рахітычныя, а камуністычныя—наадварот: яны маюць 50.000 сяброў, якія плацяць складкі, пад той час, як сацыялісты ня могуць пахваліцца і чверткай гэтага. Орган камуністаў „Humanité" мае 200.000 чытачоў, а сацыялістычны „Populaire" выпускаў толькі 7.000 экз. і спыніўся назаўтрае пасьля выбараў. Сындыкалістычны-ж орган С. G. Т. „Peuple" зьяўляецца дэфіцытным прадпрыемствам, ды наклад яго сягае ледзьве некалькіх тысячаў".

## Заграніцай.

### Украінскія січавікі ўвайшлі ў чырвоную армію.

Каля 200 украінскіх січавікоў з афіцэрамі пад камандай палкоўніка Коссака, якія некалі ваявалі з бальшавікамі і дагэтуль жылі, як эмігранты, у Чэхаславакіі, вярнуліся на Украіну, дзе ўвайшлі ў склад чырвонай арміі.

### Разбраеньне ў Даніі.

Урад у Даніі, які злажыў радыкальны праект запраўднага разбраеньня, атрымаў даверые парляманту—большасьцяй 83 галасоў проці 71.

### Нямеччына ня ўвойдзе ў Лігу Народаў.

З жэнеўскіх кругоў паведамляюць, што Нямеччына ня мае ахвоты ўваходзіць цяпер у склад Лігі Народаў, дзеля таго, што няма чаго чакаць цяпер на тое, што новы англійскі ўрад згодзіцца перагледзець справу „падзелу мандатаў над калёніямі",—чаго перад усім дамагаецца Нямеччына, як уступнага варунку.

Прасьцей кажучы, Нямеччына трэбуе, каб ёй вярнулі хаця часьць адабраных у яе калёніяў, якія амаль ня ўсе забрала сабе Англія.

На гэта Англія і інш. пераможцы, закладчыкі Лігі, адказываюць, што Ліга стварылася пасьля падзелу калёніяў (?), дык гэтыя справы зусім яе не датычаць. Але, калі-б Нямеччына згадзілася ўвайсьці ў Лігу, дык тыя-ж закладчыкі і правадыры Лігі першым чынам дамагаюцца ад яе прызнаньня гэтага падзелу!..

Дык Нямеччына разумна пастанавіла пакуль што—„пачакаць лепшых часоў" — карысьнейшага для яе палітычнага мамэнту ў Эўропе...

### Як Англія.

Японскі ўрад заяўляе, што свае адносіны да „Жэнеўскага пратаколу" стаўляе ў залежнасьць ад становішча Англіі.—Як Англія, так і Японія...

### Адстаўка ген. Прымо дэ-Рывэры.

Гішпанскі ваенны дыктатар, як піша мадрыцкі карэспандэнт у Лёндан, маніцца ўжо зрачыся ўлады, як старшыня ваеннай дырэкторыі, але затрымае... становішча галоўнакамандуючага ўсіх войск у Марокко. (?)

Заступнікам дыктатара называюць адмірала Магазэ.

### Перабудова ўраду Пашыча.

Габінэт Пашыча (Югаславія), у якім некалькі партфэляў былі незанятыя, аканчальна злажыўся, здабыўшы нават—на другароднае міністэрства—нейкага ўрадова „падрыхтаванага" харвата. Знайшоўся-ж, як заўсёды, такі, што будзе „ўрадаваць", калі яго братоў будуць гнаіць у вастрогах і душыць „на волі".

### „Дэфэнзыва" Пашыча працуе...

Урадавыя газэты ў Белградзе зьмяшчаюць сэнсацыйныя весткі аб выкрадзеных з венскага радавага пасольства дакумэнтах, кампрамітуючых „антыпанствовую" дзеяльнасьць Радіча і ўсей харвацкай партыі. „Знойдзены" „ўмовы" з 3 Інтэрнацыяналам і з Радавым урадам—аб „увядзеньні радавага ладу ў Югаславіі", аб „адарваньні Харватыі" і—„распачацьці сацыяльнай рэвалюцыі ў сярэдняй Эўропе для ўмацаваньня ў ёй уплываў Масквы"... Рэвалюцыя у Югаславіі мела пачацца ў канцы студня—перад выбарамі. Адначасна мелі зрабіць паўстаньне македонцы, на ўсю гэтую „акцыю" ішлі грошы з Масквы.

Адначасна газэта зьмяшчае і размову з адным з пашычаўскіх міністраў, які заявіў, што Масква пераацэнівае ўплывы і сілу Радіча ў краю, але гэта зусім ня значыць, што ўрад будзе цяр-

пецъ шкодную акцыю харвацкай партыі.—Усе вінавайцы панясуць кару. А калі-б, прыпадкам, суд „ня стануў на адпаведнай вышыні“ і пачаў бы апраўдываць праступнікаў, тады ўрад будзе змушаны—ня толькі „ўвясьці некаторыя рэформы ў судзе“ (!), але, калі будзе патрэбна, дык і зьмяніць канстытуцыю“ (праз **свой** парлямант!).

Вось, як пачаў правіць **усёй Югаславіяй** урад Пашыча, разьбіўшы—з падмогай караля—„харвацкую апазіцыю“ і маючы выкрадзеныя дакуманты ў руках...

# Канфлікт Англіі з Ягіптам.

### Барацьба ў Судане.

З Хартуму даносяць, што паўстаўшыя суданцы схаваліся ў бальніцы. Тады англійцы пачалі абстрэліваць бальніцу. У рэзультаце—суданцы паддаліся. У часе барацьбы 2 афіцэры і некалькі англійскіх жаўнераў ранены. Колькі забіта суданцаў, аб гэтым ПАТ ня ведае...

### Арышты і гвалты ў Ягіпце.

Ягіпецкая паліцыя атрымала загад арыштаваць 35 галоўных правадыроў „бунту“. Пакуль што з іх заарыштаваны 12, у ліку якіх—старшыня бастуючых студэнтаў.

### Пэрсыя мае пратэставаць ад імя Ягіпту.

На запытаньне швайцарскага журналіста, ці запраўды пэрсіцкі прадстаўнік у Радзе Лігі Народаў мае падняць у ёй справу Ягіпецкага пратэсту, дэлегат Пэрсіі адказаў, што, калі-б ён атрымаў ад свайго ўраду гэткае паўнамоцтва, дык вельмі ахвотна споўніў-бы просьбу Ягіпту, з якой да яго зьвярталіся ўплывовыя ягіпцяне ў Жэневе.

### Ягіпецкі пратэст перададзены ў Раду Лігі.

Сэкрэтарыят Лігі Народаў (генаральны сэкрэтар—англіец Друмонд!) сьпярша рашуча адмовіўся прыняць і перадаць у Раду пратэст ягіпецкага парляманту, але цяпер з Жэневы паведамляюць, што пратэст перасланы старшыні Рады. п. Тюмансу.

### Англійская пашана да Лігі Народаў...

Швайцарскія газэты сцьвярджаюць характэрны факт.—Ліга Народаў атрымала тэкст тэлеграмы ягіпецкага парляманту — без канца, у якім парлямант просіць Лігу аб інтэрвэнцыі ў канфлікт,—ды які надрукаваны ў-ва ўсіх заграничных газэтах...

Гэты факт зрабіў вельмі благое ўражаньне ў кругах Лігі. — Адказнасьць за гэтую няўдалую спробу ашукаць Лігу лажыцца на англійскую цэнзуру ў Каіры...

---

Гэтым даводзім да ведама паважаных грамадзян падпішчыкаў, што усім, хто да 1 студня 1925 году не паведаміць нас ці жадае у новым 1925 г. атрымоўваць газэту і ня прышле падпіскі, высылка газэты будзе **спынена.**

---

# ХРОНІКА.

**Весткі з-за мяжы.** Наш рэвельскі карэспандэнт, Мікола Чарвякоў, чаказуе:

„Вядомы беларускі пісьменьнік, Аляксандар Пшчолка, пішаць мне з Полацку, што ўсе беларусы, прыехаўшыя з Польшчы, дужа добра жывуць у Радавай Беларусі. Усе яныасталі добрыя пасады і дужа рады, што вярнуліся на Бацькаўшчыну. Многа дапамагае тут архіерэй жывое царквы, Міхал Сьвідэрскі, які жывець цяпер у Вяліжы“.

**Новыя лініі чыгункі.** 2 сьнежня ў Вільні адбылося паседжаньне Чыгуначнае Рады Віленскае Дырэкцыі. Між іншым, зацьверджана будова ў першую чаргу наступных чыгунак:

1) Белавежа—Ружаны—Слонім—Новаельня.

2) Ваўкавыск—Ружаны—Блудзэнь — Камэнь Кашырскі.

3) Араны—Ліда.

Гэтыя чыгункі мелі-б для Заходняй Беларусі вялізарнае значэньне, але пры сучасных варунках толькі дарэшты зьнішчаць Белавежскую пушчу.

**Асаблівая „аўтаномія“.** Віленшчына мае асаблівую „аўтаномію“ ў галіне падаткаў: як вызсьняе „Słowo“, тут дагэтуль мае сілу асобны закон, якога няма ў-ва ўсіх другіх краінах Польшчы і які дае польскаму скарбу пэўне не малы даход коштам віленцаў.

Аказваецца, што, пад той час, як у-ва ўсей Польшчы рахункі аплачваюцца гэрбавым зборам, толькі пачынаючы ад сумы 15 злотых і вышэй, — у Віленшчыне скарбовыя ўстановы прымушаюць клеіць маркі на ўсе рахункі—нават на адзін злоты, бо дагэтуль ня зьменены выданы йшчэ „Сярэдняй Літвой“ загад у гэтым сэньсе.

---

# Карэспандэнцыі.

### Да працэсу „72“.

(*Горадня*).

У ліпні 1922 году па ўсей Горадзеншчыне было арыштавана каля 300 беларусаў і 150 літвінаў.

Усім ім пастаўлена абвінавачаньне ў стварэньні Беларускай Рэспублікі і адарваньне Заходняй Беларусі ад Польшчы (арт. 102 часьць, II К. К.).

Большасць была звольнена, і асталася толькі каля 50 чалавек у вастрозе ў Горадні.

Вось дачакалі гэтые 50 чалавек заканчаньня сваей справы і 12 лістапяда атрымалі акт абвінавачаньня.

Усе арыштаваныя былі крэпка пабіты вывядоўцамі сьледчае экспазітуры.

5 чалавек памерлі ў вастрозе ад біцьця: Венцась, Грык і інш. (маладые хлапцы, Венцась 17 г.).

Да судавай адказнасьці прыцягнуты 72 чалавекі, з якіх 42 ў вастрозе ў Горадні, а 30 на свабодзе.

**Дзяга.**

### Не даюць роднае школы.

(*З Валожыншчыны*).

Грамадзяне вёскі Малое Запрудзе, Забрескае воласьці, Валожынскага павету, як толькі даведаліся, што можна будзе адчыняць беларускія школы, зараз-жа падалі паданьне Школьнаму Інспэктару аб ператварэньні істнуючай у іх весцы польскай школы ў школу беларускую, на што атрымалі такі адказ:

INSPEKTOR SZKOLNY

w Wołożynie

dnia 20/X 1924 r.

№ 3909.

Do p. Wincentego Szawluna
w Zaprudziu Małem, gm. Zabrzeskiej.

Załatwiając podanie z dnia 25/IX 1924 r. powiadamiam, że w bieżącym roku szkolnym nie przewiduje się otwarcia szkoły w Zaprudziu Małem, z powodu zupełnego braku inwentarza szkolnego.

p. o. Inspektora Szkolnego
(podpis nie czytelna).

Гэта Інспэктар матываваў тым, што, як толькі атрымаў паданьне аб беларускай школе, дык як найхутчэй пасьпяшыў у Забрэскую гміну, сазваў Раду і пры распрадзяленьні школьнай сеці, настаяў на тым, каб школа была не ў Малым Запрудзьдзі, але ў Вялікім, на што Рада Валасная і згадзілася, нічога ня ведаючыя аб Інспэктаравай хітрасьці. А ведама, раз рада валасная школы ў вёсцы не ўхваліла, то і інвентар, які быў, мусіць перайсьці ў суседнюю вёску, у якой Рада ўхваліла школу. Цікава, што цяпер адкажа грамадзянам Інспэктар, якія паслалі другое паданьне аб тым, што інвентар школы у іх ёсьць?

---

Жыхары вёскі Гарэдзькі, Забрэскае воласьці, даведаўшыся з газэт, што можна адчыняць беларускія школы, падалі паданьне Школьнаму Інспэктару аб ператварэньні істнуючай у іх вёсцы польскай школы ў школу беларускую, але да апошнага часу Школьны Інспэктар жаднага адказу ня даў.

Польская вучыцелька, якая вучыла і летась, дзеля таго, каб сабраць дзяцей у школу, пусьціла весткі, што школа будзе дзьвюмоўная, і што яна будзе выкладаць і мову беларускую, але, як дзеці пайшлі ў школу, дык вуча толькі папольску.

Ня гледзячы на тое, што ў нашай вёсцы дзяцей налічаецца за 60, бацькі якіх усе праваслаўныя і лічаць сябе беларусамі, усё-ж такі школа ў вёсцы застаецца польская і ў гэтым годзе.

Грамадзяне вельмі гэтым не здаволены і гавораць паміж сабой, што школы роднай ня далі, дзякуючы стараньню Каварки — аканома абшарніка Валчацкага. Ен не глядзіць, што ў пана летась авёс пагніў, а сёлета сена ды выка ў гумне спарылася, але глядзіць лепей Гародзькаўскай школы, бо яму вучыцелька вельмі прыглянулася. Баючыся за тое, што, як адчыняць беларускую школу, прыдзецца вучыцельцы перакачовываць у другую мясцовасьць, наш Каварка і пусьціўся на ўсе хітрыкі. Пайшоў па дворных парабкаў подпісы сабіраць, прыгаварываючы, калі толькі хто не падпіша прыгавара, дык пан ад службы адкажа і з хаты выгане. А дзяцей запісываў так: якому тры гады—пісаў сем: якому 16 гадоў—пісаў 12 і, такім чынам, набраў у сьпіс каля 25 дзяцей, ня гледзячы, што ў школу хадзілі летась і ходзяць і сёлета фактычна, толькі 8 дзяцей з двара. Трэба на гэта ашуканства зьвярнуць увагу Беларускай Школьнай Радзе і праз сваіх паслоў зрабіць высвятленьне гэтай справы.

Трэба дадаць да гэтага, што і айцы духоўныя памагаюць такім авантурыстам абманываць ды баламуціць людзей. Напрыклад, як Гародзькаўскі Кудасаў іспаўняў ролю Солтыса, загадываў бацьком пасылаць сваіх дзяцей у польскую школу. Запусты (загавіны) загадываў рабіць па новаму стылю, а жаніў па стараму, г. з. па новаму стылю ўжо быў пост, а ён вянчаў. Людзі праваслаўныя ня толькі ўсякімі чыноўнікамі забіты, але і сваім духавенствам абаламучаны. Што да дзяцей у школу айцец Кудасаў ходзіць Закон Божы вучыць, дык гэта вельмі добра, але ня вельмі дзецям і бацьком дзяцей падабаюцца яго ваенныя прыёмы (біццё ў морду), як гэта было на гэтых днёх. Здаецца ўжо 7 гадоў прайшло, як ён быў афіцэрам, а ў морду біць не забыўся, як спаласне вучню, дык аж перавернецца.

**Забрэскі.**

### Крэсавыя культуртрэгеры.

(*З Сьвянцяншчыны*).

Тайная палітычная паліція, якой так многа ўсюды на так-званых „Крэсах Усходніх“ і хіба-ж найбольш у нас у Сьвянцянскім павеце, гранічачым з некалькімі сумежнымі дзяржавамі, усяляк стараецца не абмінуць ні аднэй установы, вынюхіваючы „неблаганадзежнасьць“, і пранікнуць усюды, нат' сярод малых сялянскіх дзяцей — у прытулак, школу і інш.

Якія неаблічальныя шкоды прыносе дзецям гэткая „праца“, усе добра знаюць; а як і дзе шукаць ратунку ад гэтага, няма ведама. А вось вынікі „недатыкальнасьці“ пэдагогаў—дэфэнзыўшчыкаў.

У Сойміковым прытулку ў Засьвіры, аднэй з узгадавальніц дзяцей была вядомая конфідэнтка, ці агэнтка тайнай паліціі, нейкая Варшоўна. А з яе пабыту там шмат „скарысталі“ і дзеткі і сяляне, бо было чаго і навучыцца: амаль ня што дзень можна было бачыць разнузданныя оргіі і п'янства. У 22 г. ей удалося ўжо быць вучыцелькай у Вайстомскай гміне, дзе ізноў з рэдкай „пэдагогічнай“ энэргіяй вучыла маладых вясковых хлапцоў распусты і п'янства, веручы ў сваю „недатыкальнасьць“. А сколькі ёсьць яшчэ вучыцялёў і вучыцелек, якія служаць у двух установах і займаюцца падобнай „працай“, пазваляючы сябе на ўсё?

На гэтыя зьявішчы пачалі ўсе ўжо зварачаць увагу, і нядаўна вядомы абшарнік нашага павету, гр. Б. Скірмунт, пішучы у № 269 „Dz. Wil.“, пытаецца, адкуль вучыцелькі гэтыя бяруць грошы на пекныя футры і лёгкае жыцьцё?

Гэта — сярод прытулкаў і пачатковых школ у павеце. Сярод жа школ „zawodowych“, спэцыяльных, калі часам вучыцеля падатнаго ня знойдуць, дык стараюцца падкупіць бяднейшых вучняў, ці службу школы, грашыма, цукеркамі, ці гарэлкай, каб шпігавалі ў школе, як гэта было год таму назад у Школе Агародніцтва ў Сьвянцянах. Калі ж знайшоўся і там падатны чалавек (Кіраўнік нават), нейкі Пастаўка, дык зараз жа пайшла „работа„; наняў у школу, на падмогу сабе, нібы „рабочага“ нейкага дамарослага агэнта, з'арганізаваў з найгоршых вучняў школы і ўславіўшагася немаральнасьцяй „прафэсара“ Радовіча „сваю дэфэнзыву“, праца каторай выяўляляся ў усялякіх даносах на сваіх жа пэдагогаў і ў самачынных рэвізіях, якія рабіліся даволі часта ў службы і „неблаганадзёжных„ вучняў школы, пражываючых у бурсе, у зачыненых на замок чэмоданах і кошыках, падчас каторай гінулі розныя рэчы, як гадзіньнікі і т. п.

Сярод жа сярэдніх школ у павеце, праца тайнай паліцыі вядзецца яшчэ лепш, бо як ходзяць чуткі, вядзе яе сэм пан дырэктар польскае гімназіі Б. Чайкевіч. Што на яго падае падазрэньне ў супрацоўніцтве ў дэфэнзыве, дык няма дзіва, бо ён на адным з засяданьняў Сьвянцянскай павятовай школьнай камісіі ў прысутнасьці яе сябраў гр. М. Цывінскага, К, Барзобогатой, Я Крывко, Памоцніка Школьнага Інспэктара і др. не пасароміўся адкрыта намаўляць пэдагогаў да працы ў дэфэнзыве, а на пратэсты камісіі аўтарытэтна адказываў. што гэта павіннасьць кожнага польскага патрыота—пэдагога і т. п. Няма дзіва, што пад кіраўніцтвам такога выдатнага „пэдагога“ Гімназія маа благую рэпутацію, многа гавораць аб п'янстве і Бог ведае што.

**Тутэйшы.**

---





Рэдактар-Выдавец **Антон Войцік.**

Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.